***The*** **(my, your)** ***other*** **+ plural noun** / ***The others***

Займеннік **the other** ужываецца таксама перад назоўнікамі ў множным ліку (*other details, other materials*) ці самастойна ў форме множнага ліку **the others** і мае наступнае значэнне:

– «іншыя, астатнія» (з канкрэтнай групы людзей ці прадметаў) – *the rest of the people or things in a definite group:*

We stayed until all **the other guests** had gone home.

Beethoven's Ninth Symphony is much longer than **his other symphonies**.

Where are **my other cassettes** that I gave you?

There are only three books in the bag. Where are **the others?**

## Lesson 4. Reported speech: statements. Ускосная мова: апавядальныя сказы

| Direct Speech (Простая мова) | Reported Speech (Ускосная мова) |
|---|---|
| **A.** Vivienne **says to** the reporter: **"I am** attracted to people who know what suits them."<br>**B. "I don't** feel comfortable defending **my** clothes," she **says**. | **A.** Vivienne **tells** the reporter **she is** attracted to people who know what suits them.<br>**B.** She **says she doesn't** feel comfortable defending **her** clothes. |

Простая мова – гэта цытаванне чыіх-небудзь слоў.

У адрозненне ад простай мовы ўскосная мова перадае чужое выказванне ад асобы аўтара і ўзнаўляе яго не даслоўна, а толькі з захаваннем агульнага зместу (хоць у асобных выпадках ускосная мова можа набліжацца да даслоўнага ўзнаўлення чужой мовы).

Пры пераходзе апавядальнага сказа з простай мовы ва ўскосную будуецца складаназалежны сказ і ўносяцца наступныя змены:

1) дзеяслоў **say to smb**, які ўводзіць простую мову, замяняецца дзеясловам **tell smb;**
2) асабовыя і прыналежныя займеннікі замяняюцца паводле сэнсу: **I – she, my book – her book;**
3) дзеяслоў у дадзеным сказе можа памяняць форму ў адпаведнасці з дзейнікам. Напрыклад, **have – has;** I **don't feel** – she **doesn't feel;**

4) калі ў галоўным сказе дзеяслоў, які ўводзіць ускосную мову, стаіць у прошлым часе, то ў дадзеным сказе адбываецца зрух часоў у мінулае (Sequence of Tenses) наступным чынам: Present Simple → Past Simple, Present Continuous → Past Continuous, Present Perfect → Past Perfect, Past Simple → Past Perfect, Future Simple → Future Simple in the Past. Змяняюцца таксама прыслоўі часу і месца і ўказальныя займеннікі: today – that day, yesterday – the day before, tomorrow – the next day, ... ago – ... before, last ... – the ... before, next ... – the following ..., here – there, this – that, these – those.

## Lesson 5. Reported commands. Ускосная мова: пабуджальныя сказы

| **Direct Speech (Простая мова)** | **Reported Speech (Ускосная мова)** |
|---|---|
| The model **says to** her assistant: "**Hurry up! Don't be** slow!" | The model **tells/asks** her assistant **to hurry up**. She **tells/asks** her **not to be** slow. |

Загад ці просьба ва ўскосна мове звычайна перадаецца інфінітывам з часціцай **to**:

**tell/ask sb (not) to V**

## Lesson 6. Reported questions. Ускосная мова: пытальныя сказы

| **Direct Speech** | **Reported Speech** |
|---|---|
| The journalist: "What **is** your secret?"<br>The journalist: "**Do** you take care of **your** skin?" | The journalist asks David what his secret **is**.<br>The journalist wants to know if he takes care of **his** skin. |

1. Ускоснае пытанне ўяўляе сабой складаназлучаны сказ.

2. У галоўным сказе выкарыстоўваюцца ўводныя словы *ask*, *want to know*, *wonder*, *it's interesting* ...

3. У дадзеным сказе пытанне пераўтвараецца ў апавядальны сказ з прамым парадкам слоў, таму дапаможныя дзеясловы *do*, *does*, *did* у сцвярджальных сказах ускоснай мовы знікаюць. Змяняюцца таксама займеннікі і формы дзеясловаў у залежнасці ад новага дзейніка.

**NB:** Калі ў галоўным сказе дзеяслоў, які ўводзіць ускоснае пытанне, стаіць у прошлым часе, то ў дадзеным сказе адбываецца зрух часоў у мінулае згодна з правіламі дапасавання часоў (Sequence of Tenses).

4. Агульнае пытанне ўводзіцца злучнікамі **if** і **whether**, якія перакладаюцца на беларускую мову часціцай **ці** пасля дзеяслова.

5. Спецыяльнае пытанне ўводзіцца тым жа пытальным словам, што і адпаведнае пытанне ў простай мове.

# UNIT 6

## Lesson 3. Modal verbs *must* / *may* / *might* / *could* / *can't* + different infinitives for certainty and possibility. Мадальныя дзеясловы *must* / *may* / *might* / *could* / *can't* з рознымі відамі інфінітыва для перадачы ўпэўненасці і верагоднасці

У англійскай мове ёсць чатыры віды інфінітыва – такія ж, як і групы часоў. Адпаведна захоўваецца іх асноўнае значэнне: *Indefinite (Simple) Infinitive* указвае на звычайнае дзеянне, *Continuous* перадае дзеянне, што адбываецца ў момант гаварэння, *Perfect* – дзеянне, завершанае да моманту гаварэння, *Perfect Continuous* – што працягвалася да моманту гаварэння. Інфінітывы выкарыстоўваюцца як з часціцай **to**, так і без яе.

I want **to help** you. We can **do** it ourselves.

Indefinite (Simple) Infinitive выкарыстоўваецца пасля значных дзеясловаў *want*, *like*, *need*, *recommend*, *advise*, *decide* і іншых і пасля мадальных дзеясловаў. Усе астатнія інфінітывы ўжываюцца пасля мадальных дзеясловаў і перадаюць розныя адценні значэнняў, напрыклад верагоднасць ці ўпэўненасць у тым, што дзеянне магчымае цяпер, у мінулым або ў будучым.

He **must** ***be reading***. – Ён напэўна чытае (цяпер).

He **might** ***have read*** the book. He's had it for a month. – Ён, мабыць, прачытаў кнігу. Яна была ў яго месяц.

He did the work very badly. He **can't** ***have been trying*** hard to do the task. – Не можа быць, каб ён вельмі стараўся выканаць заданне.

| | |
|---|---|
| **Indefinite (Simple) Infinitive**<br>**V** (rain, etc) | **Continuous Infinitive**<br>**be + V ing** (be raining) |
| **Perfect Infinitive**<br>**have + V3** (have rained) | **Perfect Continuous Infinitive**<br>**have been + V ing** (have been raining) |

Мадальныя дзеясловы **must** / **may** / **might** / **could** / **can't** у спалучэнні з рознымі інфінітывамі перадаюць наступныя значэнні.

| Мадальны дзеяслоў і яго значэнне | Infinitive | Час дзеяння |
|---|---|---|
| 100 percent ***certainty***<br>She **must** (Мабыць ...)<br>She **can't**<br>(Не можа быць, каб ...) | be at home. | present |
| | be reading. | now |
| ***possibility*** (it's possible, but I am not sure)<br>She **may** / **might** / **could**<br>(Магчыма ...) | have read the book. | past |
| | have been reading the book since morning. | past |

# UNIT 7

## Lesson 3. Article with the names of museums / theatres/ cinemas / galleries, etc. Артыкль з назвамі музеяў, тэатраў, кінатэатраў, галерэй і г.д.

Большасць назваў тэатраў (the Palace Theatre, the Royal Theatre, the Globe), кінатэатраў (the Odeon Cinema, the Filmworks, the Classic Cinema, the Plaza, the Oktyabr Cinema), музеяў (the British Museum, the Science Museum), галерэй (the Tate Gallery, the National Gallery), рэстаранаў (the Goose, the Slug and Lettuce), атэляў ужываецца з азначальным артыклем. Аднак калі ў гэтых назвах выкарыстоўваецца імя ўласнае ў прыналежным склоне (Matilda's Restaurant, Durrant's (Hotel), McDonald's, St John's Church, Harrods (shop), Madame Tussauds (museum of wax figures), Lloyds Bank), першае слова ўяўляе сабой прозвішча чалавека ці назву якога-небудзь месца (Norwich Museum, Duxford Museum, Portsmouth Natural History Musem), артыкль, як правіла, не ўжываецца.

– Shall we eat at the Goose?

– No, I'm a vegetarian. Let's eat at the Slug and Lettuce.

The Filmworks in Greenwich is a huge cinema complex next to the Holiday Inn on the Greenwich Peninsula.

The National Gallery is on the northern side of Trafalgar Square, opposite Nelson's Column. It's about a fifteen-minute walk from the British Museum.

# UNIT 8

## Lesson 1. Article with inventions and means of communication. Артыкль з назвамі вынаходак і сродкаў камунікацыі

Часта назвы вынаходак, многія з якіх з'яўляюцца сродкамі камунікацыі, выкарыстоўваюцца ў абагульненым сэнсе : the wheel, the computer і інш.

Азначальны артыкль **the** выкарыстоўваецца, калі вынаходка асацыіруецца з канкрэтным назоўнікам, напрыклад: the telephone, the mobile phone, the computer, the sail, the book і інш.

**The telephone** was invented by Alexander Graham Bell (the telephone асацыіруецца з тэлефонным апаратам, што выкарыстоўваецца для тэлефоннай сувязі, г.зн. з канкрэтным назоўнікам).

Артыкль НЕ выкарыстоўваецца, калі вынаходка асацыіруецца з абстрактным назоўнікам, напрыклад: television (сістэма трансліравання інфармацыі), photography (працэс фатаграфавання), cinema (здымка і паказ фільмаў; мастацтва) і калі слова заканчваецца на -ing: cloning.

**Radio** owes its development to two other inventions, the telegraph and the telephone, all three technologies are closely related (radio асацыіруецца з сістэмай, што перадае інфармацыю на далёкія адлегласці з дапамогай радыёхваль).

**Email** is a wonderful invention which links people across the world (сістэма адпраўкі паведамленняў з аднаго камп'ютара на другі).

Запомніце ўжыванне артыкля ў наступных словазлучэннях:

TELEPHONE

*over the telephone:* People are interviewed over the telephone.

*by telephone:* Computers send information by telephone using a modem.

*on the telephone*: 1) He's been on the telephone for the past two hours (=talking to someone); 2) I can't believe you're not on the telephone (=have no telephone in your home, office).

RADIO

*turn on / off a radio* (= a radio set): Let's turn on the radio. It's time for the news.

*the radio* (=the programmes): I like listening to the radio while I'm driving.

*on the radio*: We heard a lot of flood warnings on the radio.

*by radio*: We might be able to contact him by radio.

He's worked *in radio* (= work) all his life.

TELEVISION

*watch television*: Most people watch television every day.

*on television*: What's on TV? We watched the news on television.

It's not easy to write plays *for television* (= form of entertainment).

*turn on / turn off / switch on / switch off a television* (= a television set): Kelly switched on the television and forgot about everything.

**BUT**

I'd like to buy **a** new radio / television (set).

## Lesson 2. Complex sentences with attributive relative clauses. Азначальныя даданыя сказы

**I. Азначальныя даданыя сказы** выконваюць функцыю азначэння і адказваюць на пытанне **What ...? Which ...?** *Які ..?* Яны ідуць непасрэдна за тым назоўнікам у галоўным сказе, які яны вызначаюць, і злучаюцца з галоўным сказам наступнымі злучальнымі словамі:

– адноснымі займеннікамі (relative pronouns):

**who** *які*; **whom**[1] *якога*; **whose** *чый*, *якога*; **which** *які*; **that** *які*;

– прыслоўямі (adverbs):

**when** *калі*; **where** *дзе*, *куды*.

**II.** Азначальныя даданыя сказы могуць быць **абмежавальнымі** (defining or restricting) і **неабмежавальнымі** (non-defining or non-restricting).

а) **Абмежавальны** (defining) даданы сказ уплывае на сэнс сказа. Ён выдзяляе назоўнік, да якога адносіцца, і далучаецца да галоўнага сказа з дапамогай злучнікаў **who, that, which**, якія ў даданым сказе могуць з'яўляцца дзейнікам (гл. 1) ці дапаўненнем (гл. 2) – у гэтым выпадку злучнік можна апусціць:

---

[1] Whom – форма аб'ектнага склону займенніка 'who' ужываецца ў гутарковай мове.

1. **who / that** (for people)

This is the man **who** *bought the gadget*. – *Гэта чалавек, які купіў тэхнічную навінку.*

2. **that / which** (for things and animals)

This is the gadget **(that/which)** *he bought*. – *Гэта – тэхнічная навінка, якую ён купіў.*

б) **Неабмежавальны** (non-defining) даданы сказ не з'яўляецца істотным для значэння ўсяго сказа. Ён утрымлівае дадатковыя звесткі. Галоўны сказ будзе мець сэнс і без такога даданага сказа.

**This man, who lives in the neighbouring street, bought the gadget in our shop yesterday.** – Чалавек, які жыве на суседняй вуліцы, учора купіў тэхнічную навінку ў нашым магазіне.

**This gadget, which was bought in our shop yesterday, will have to be exchanged.** – Гэтая тэхнічная навінка, якую купілі ў нашым магазіне ўчора, будзе заменена.

в) **Пунктуацыя:** абмежавальныя даданыя сказы коскамі не выдзяляюцца. Неабмежавальныя даданыя сказы выдзяляюцца коскамі, а часам працяжнікам ці дужкамі.

This man (who lives in the neighbouring street) bought the gadget in our shop yesterday.

This gadget – which was bought in our shop yesterday – will have to be exchanged.

г) **У гутарковай мове** замест складаназалежных сказаў з даданымі азначальнымі неабмежавальнымі ўжываюцца звычайна простыя (simple) сказы, што ідуць адзін за адным.

Параўнайце:

**My brother, who is a computer engineer, is on a business trip now.** – Мой брат, які з'яўляецца камп'ютарным інжынерам, зараз у камандзіроўцы. My brother is a computer engineer. He is on a business trip now.

д) Даданыя азначальныя (defining and non-defining) уводзяцца таксама адносным займеннікам **whose,** калі гаворка ідзе пра людзей. Гэты ж займеннік выкарыстоўваецца ў дачыненні да неадушаўлёных назоўнікаў, але замест яго лепш карыстацца займеннікам **which** з прыназоўнікам **of.**

He is a person **whose** invention made him popular all over the world.

One of the gadgets **whose** functioning may cause problems is iPhone-4. = One of the gadgets the functioning **of which** may cause problems, is iPhone-4.

У неабмежавальных (non-defining) даданых сказах **which** замяняе цэлы сказ.

Yesterday she didn't work on the computer, **which** was very unusual for her.

е) Даданыя азначальныя часта ўводзяцца **адноснымі прыслоўямі where** (for place) і **when** (for time) замест адноснага займенніка з прыназоўнікам. Параўнайце:

The office **in which he works** is situated in a remote part of the town. (written language)

The office **he works in** is situated in a remote part of the town. (spoken English)

The office **where he works** is situated in a remote part of the town. (spoken English)

Або:

The times **during which** communication was slow are long gone. (written language)

The times **when** communication was slow are long gone. (spoken English)

## Lesson 5. Complex sentences. Складаназлучаныя сказы

**I. Сказ (sentence)** – гэта спалучэнне слоў, што выражаюць закончаную думку.

**Email is gradually replacing snail mail.** – Электронная пошта паступова замяняе звычайную пошту.

Члены сказа падзяляюцца на *галоўныя* і *даданыя*. Галоўныя члены сказа – *дзейнік* (subject) і *выказнік* (predicate). Даданыя члены сказа – *дапаўненне* (object), *азначэнне* (attribute) і *акалічнасць* (adverbial).

Парадак слоў у англійскай мове з'яўляецца асноўным сродкам адрознення членаў сказа. Парадак слоў апавядальнага сказа – прамы, фіксаваны: дзейнік, выказнік, дапаўненне.

**I received the message yesterday**. – Я атрымаў гэтае паведамленне ўчора.

**II. Па сваёй структуры сказы падзяляюцца на** *простыя* (simple sentences) і *складаныя.* Простыя сказы бываюць *развітыя* і *неразвітыя.*

Складаныя сказы падзяляюцца на *складаназлучаныя* (compound sentences) і *складаназалежныя* (complex sentences).

Складаназлучаны сказ складаецца з двух і больш раўнапраўных простых сказаў (clauses), звязаных злучальнымі злучнікамі: *and* (і); *but* (але); *while*, *whereas* (а, у той час як); *or* (ці); *otherwise* (інакш); *either* ... *or*, *neither* ... *nor* (ці ... ці, або ... або).

**Email is efficient and reliable, while snail mail is something very personal.** – Электронная пошта дзейсная і надзейная, у той час як звычайная пошта з'яўляецца чымсьці вельмі асабістым.

**III. Складаназалежны сказ** складаецца з галоўнага (*the principal* or *main clause*) і аднаго ці некалькіх даданых сказаў (*subordinate clause(s)*, якія паясняюць галоўны. Даданыя сказы выконваюць ролю розных членаў сказа: дзейніка (subject), іменнай часткі выказніка (predicative), дапаўнення (object), азначэння (attributive), акалічнасці (adverbial).

**IV. Тыпы даданых сказаў**

1. **Даданыя сказы дзейнікі** (subject subordinate clauses) уводзяцца злучнікамі *that* (што), *if/whether* (ці), *who* (хто), *what* (што), *which* (які), *when* (калі), *where* (дзе), *how* (як), *why* (чаму).

***That the Internet is an effective means of communication* is well known.** – Тое, што інтэрнэт – эфектыўны сродак зносін, добра вядома.

2. **Даданыя сказы прэдыкатыўныя** (predicative subordinate clauses) выконваюць функцыю іменнай часткі выказніка і ўводзяцца злучнікамі *that* (што), *if/whether* (ці), *who* (хто), *what* (што), *which* (які), *when* (калі), *where* (дзе), *how* (як), *why* (чаму).

**The problem is *that young people get addicted to mobile phones and the Internet*.** – Праблема ў тым, што маладыя людзі становяцца залежнымі ад мабільных тэлефонаў і інтэрнэта.

3. **Даданыя сказы дапаўняльныя** (object subordinate clauses) далучаюцца да галоўнага сказа з дапамогай злучнікаў *that*, *if/whether*, *what*, *who*, *which*, *where*, *how*, *why*.

**I don't know** ***where the contradiction lies.*** – Я не ведаю, дзе ляжыць супярэчнасць.

4. **Даданыя сказы азначальныя** (attributive subordinate clauses) далучаюцца да галоўнага сказа з дапамогай такіх злучнікаў і прыслоўяў, як *who* (які), *whose* (чый), *which/that* (які), *where* (дзе), *why* (чаму).

**Here is the gadget (that / which)** ***we have spoken about.*** – Вось і прыстасаванне, пра якое мы гаварылі. (Гл. матэрыялы па тэме Attributive clauses.)

5. **Даданыя сказы акалічнасныя** падзяляюцца на акалічнасныя сказы:

а) **месца** (adverbial clauses of place), якія, зыходзячы з назвы, патрабуюць толькі злучнікаў *where* (дзе, куды) і *wherever* (дзе б ні, куды б ні).

**Do you know** ***where I can access the Internet?*** – Вы не ведаеце, дзе я магу атрымаць доступ у інтэрнэт?

б) **часу** (adverbial clauses of time). Адпаведна для іх патрэбны злучнікі, што вызначаюць часавыя параметры: *when* (калі), *after* (пасля таго як), *before* (да таго як), *till* (да той пары пакуль), *while* (у той час як), *since* (з той пары як), *as soon as* (як толькі), *by the time* (на той час).

***By the time you finish school*****, new means of communication will be developed.** – Да таго часу калі ты скончыш школу, будуць створаны новыя сродкі сувязі.

в) **прычыны** (adverbial clauses of reason) са злучнікамі *because* (таму што), *as/since, for* (таму што).

**I called you yesterday** ***because I couldn't help waiting.*** – Я пазваніў табе ўчора, таму што больш не мог чакаць.

г) **мэты** (adverbial clauses of purpose) з уводнымі злучнікамі *that* (каб), *so that/in order that* (для таго каб), *lest* (каб не...).

**She must speak in a low voice** ***so that nobody could eavesdrop.*** – Яна павінна гаварыць цішэй, каб ніхто не мог падслухаць.

**He's saving money** ***in order that he can afford to buy an expensive smartphone.*** – Ён збірае грошы, каб дазволіць сабе купіць дарагі смартфон.

д) **умовы (**adverbial clauses of condition**)**, у якіх выкарыстоўваюцца злучнікі *if* (калі), *provided that/on condition that* (пры ўмове што).

***If you find the gadget I recommend,* I will lend you the money.** – Калі ты знойдзеш тое ўстройства, якое я рэкамендую, я пазычу табе грошай.

е) **уступкі (**adverbial clauses of concession**)** са злучнікамі *though* (хоць), *no matter how* (як бы ні было), *no matter what* (што б там ні было, у любым выпадку), *however*, *whoever*, *whatever*, *whichever.*

***Whatever people say about the Internet,* they're not going to stop using it. –** Што б людзі ні гаварылі пра інтэрнэт, яны не перастануць ім карыстацца.

ж) **спосабу дзеяння (**adverbial clauses of manner**)** са злучнікамі *as* (як), *as if/as though* (быццам).

**He reads as quickly *as he can*.** – Ён чытае так хутка, як толькі можа.

**She spoke *as though nothing had happened*.** – Яна гаварыла так, быццам нічога не адбылося.

## UNIT 9

### Lesson 4. Criticism: *should / ought to* + Perfect Infinitive. Мадальныя дзеясловы *should/ought to* + Perfect Infinitive для выражэння крытыкі мінулага дзеяння

Мадальныя дзеясловы ***should/ought to*** у спалучэнні з Perfect Infinitive (have V3) перадаюць ганьбаванне ці папрок і абазначаюць, што нехта, на думку гаворачага, няправільна зрабіў нешта ў мінулым.

| |
|---|
| should have + V3 / ought to have +V3 |

Kevin didn't have breakfast. His mother says, "You **ought to have had** breakfast!"
Kevin panicked. His mother says, "You **shouldn't have panicked!**"

## Lesson 7. Clauses of reason.
## Даданыя сказы прычыны

Даданыя сказы прычыны ўводзяцца злучнікамі **because, as, since, for** і перадаюць прычыну дзеяння.

Сказы са злучнікам **because** звычайна стаяць у канцы, што ўказвае на самую важную частку сказа – прычыну.

I went to Spain last summer **because** I wanted sunshine on every day of my holiday.

**As** і **since** звычайна ўжываюцца ў пачатку сказа, калі прычына ўжо добра вядомая, а таму менш важная.

**As** the performance had already started, we went up to the balcony and occupied some empty seats there.

**Since** John had already eaten, I had a sandwich.

Аднак яны могуць стаяць і пасля галоўнага сказа.

We can all go home, **since** there's no more business.

Злучнік **for** ніколі не ўжываецца ў пачатку сказа, ён заўсёды ідзе пасля коскі ў пісьмовай мове ці паўзы ў вуснай мове. Гэта своеасаблівая «думка наўздагон».

I told her to leave, **for** I was very tired.

I decided to stop the work I was doing – **for** it was very late and I wanted to go to bed.

# Irregular verbs list
# Спіс няправільных дзеясловаў

| Verb (V) | Past Tense (V2) | Past Participle (V3) |
|---|---|---|
| **begin** пачынаць | began | begun |
| **bend** нахіляць(цца) | bent | bent |
| **break** ламаць | broke | broken |
| **bring** прыносіць | brought | brought |
| **build** будаваць | built | built |
| **buy** купляць | bought | bought |
| **catch** лавіць | caught | caught |
| **choose** выбіраць | chose | chosen |
| **come** прыходзіць | came | come |
| **cut** рэзаць | cut | cut |
| **deal** мець справу | dealt | dealt |
| **do** рабіць | did | done |
| **draw** маляваць | drew | drawn |
| **dream** марыць; сніць | dreamed, dreamt | dreamed, dreamt |
| **drink** піць | drank | drunk |
| **drive** весці машыну | drove | driven |
| **eat** есці | ate | eaten |
| **fall** па́даць | fell | fallen |
| **feed** карміць | fed | fed |
| **feel** адчуваць | felt | felt |
| **fight** змагацца | fought | fought |
| **find** знаходзіць | found | found |
| **fit** падыходзіць размерам | fit | fit |
| **fly** лятаць | flew | flown |
| **forget** забываць(цца) | forgot | forgotten |
| **freeze** замярзаць | froze | frozen |
| **get** атрымаць | got | got |
| **give** даць | gave | given |
| **go** ісці, ехаць | went | gone |
| **grow** расці | grew | grown |
| **hang** вісець | hung | hung |
| **have** мець | had | had |
| **hear** чуць | heard | heard |

| Verb (V) | Past Tense (V2) | Past Participle (V3) |
|---|---|---|
| **keep** трымаць, захоўваць | kept | kept |
| **know** ведаць | knew | known |
| **lay** пакласці; накрываць (*на стол*) | laid | laid |
| **learn** вывучаць, пазнаваць | learned learnt | learned, learnt |
| **leave** выязджаць, выходзіць, пакідаць | left | left |
| **lie** ляжаць | lay | lain |
| **light** запальваць | lit | lit |
| **lose** губляць, страчваць | lost | lost |
| **make** рабіць | made | made |
| **pay** плаціць | paid | paid |
| **put** класці | put | put |
| **read** чытаць | read | read |
| **ride** ехаць (*вярхом*) | rode | ridden |
| **run** бегаць | ran | run |
| **say** гаварыць, сказаць | said | said |
| **see** бачыць | saw | seen |
| **sell** прадаваць | sold | sold |
| **send** пасылаць | sent | sent |
| **sew** шыць | sewed | sewn |
| **show** паказваць | showed | shown |
| **sing** спяваць | sang | sung |
| **sink** тануць, патанаць | sank | sunk |
| **sit** сядзець | sat | sat |
| **sleep** спаць | slept | slept |
| **spend** траціць | spent | spent |
| **spread** распаўсюджваць | spread | spread |
| **stick** прыклейваць | stuck | stuck |
| **strike** удараць(цца) | struck | struck |
| **sweep** месці | swept | swept |
| **swim** плаваць | swam | swum |
| **take** браць | took | taken |
| **teach** вучыць, навучаць | taught | taught |
| **tell** гаварыць | told | told |
| **think** думаць | thought | thought |
| **throw** кідаць | threw | thrown |
| **wear** насіць | wore | worn |
| **win** выйграваць | won | won |
| **write** пісаць | wrote | written |

# Vocabulary

*adj* – adjective прыметнік
*adv* – abverb прыслоўе
*conj* – conjunction прыназоўнік
*n* – noun назоўнік
*phr v* – phrasal verb фразавы дзеяслоў
*v* – verb дзеяслоў

## A

**addict** [ˈædɪkt] *n* заядлы аматар; прыхільнік
**addicted** [əˈdɪktɪd] *adj* схільны (*часта да дрэннага*)
**addiction** [əˈdɪkʃ(ə)n] *n* схільнасць (*да чаго-н.*), згубная прывычка
**admission** [ədˈmɪʃ(ə)n] *n* допуск, уваход (*у музей і да т.п.*)
**admission fees** [ədˈmɪʃ(ə)n ˈfiːz] плата за ўваход
**advice** [ədˈvaɪs] *n* парада
**advise** [ədˈvaɪz] *v* раіць
**aerobics** [eəˈrəʊbɪks] *n* аэробіка
**affect** [əˈfekt] *v* рабіць уплыў (*на*)
**aggression promoting** [əˈgreʃ(ə)n prəˈməʊtɪŋ] які садзейнічае агрэсіі
**appear** [əˈpɪə] *v* з'яўляцца
**appreciate** [əˈpriːʃɪeɪt] *v* цаніць
**arid** [ˈærɪd] *adj* сухі, засушлівы
**artificial** [ˌɑːtɪˈfɪʃ(ə)l] *adj* штучны, ненатуральны
**atmosphere** [ˈætməsfɪə] *n* атмасфера
**attractive** [əˈtræktɪv] *adj* прывабны
**available** [əˈveɪləb(ə)l] *adj* даступны, наяўны
**avalanche** [ˈævəlɑːnʃ] *n* лавіна, абвал (*снегу*, *зямлі*, *лёду ў гарах*)
**avoid** [əˈvɔɪd] *v* пазбягаць

## B

**bald** [bɔːld] *adj* лысы
**be in one's early thirties** [ˈθɜːtɪz] быць ва ўзросце 30–33 гадоў
**be in one's mid-thirties** быць ва ўзросце 34–36 гадоў
**be in one's late thirties** быць ва ўзросце 37–39 гадоў
**be the breadwinner** [ˈbredˌwɪnə] быць галоўным здабытчыкам у сям'і
**be under the weather** [ˈweðə] недамагаць, нездаровіцца
**bear in mind** [ˈbeə ɪn ˈmaɪnd] прымаць пад увагу
**beard** [bɪəd] *n* барада
**blizzard** [ˈblɪzəd] *n* снежная завіруха, буран, мяцеліца
**brain** [breɪn] *n* мозг
**breezy** [ˈbriːzɪ] *adj* ветраны
**bring together** *phr v* злучаць

**bully** [ˈbʊlɪ] *v* задзіраць, запалохваць
**bullying** [ˈbʊlɪɪŋ] *n* запалохванне
**button** [ˈbʌt(ə)n] *n* гузік

## C

**cancer** [ˈkænsə] *n* рак
**can't help (doing smth)** не магчы не зрабіць што-н.
**carcinogen** [kɑːˈsɪnədʒ(ə)n] *n* канцэраген
**casual** [ˈkæʒʊəl] *adj* штодзённы
**Celsius** [ˈselsɪəs] па Цэльсію
**charge** [tʃɑːdʒ] **fees** браць плату
**charming** [ˈtʃɑːmɪŋ] *adj* чароўны, цудоўны
**cheat** [tʃiːt] *v* падманваць, жульнічаць
**cheating** [ˈtʃiːtɪŋ] *n* падман; жульніцтва
**chemical** [ˈkemɪk(ə)l] *n* хімічны прадукт; хімікат
**chit-chat** [ˈtʃɪt ˌtʃæt] *v* пляткарыць
**close-knit** [ˌkləʊsˈnɪt] *adj* згуртаваная (*сям'я*)
**clothes** [kləʊðz] *n pl* адзенне
**collar** [ˈkɒlə] *n* каўнер
**communicate** [kəˈmjuːnɪkeɪt] *v* мець зносіны
**communication** [kəˌmjuːnɪˈkeɪʃ(ə)n] *n* зносіны
**companionship** [kəmˈpænjənʃɪp] *n* таварыства, сяброўства
**condition** [kənˈdɪʃ(ə)n] *n* стан; умова
**confident** [ˈkɒnfɪd(ə)nt] *adj* упэўнены
**contain** [kənˈteɪn] *v* утрымліваць (змяшчаць) у сабе, уключаць, мець у сваім саставе; змяшчаць
**continental** [ˌkɒntɪˈnent(ə)l] *adj* кантынентальны
**contradiction** [ˌkɒntrəˈdɪkʃ(ə)n] *n* супярэчнасць, неадпаведнасць
**cope with** [ˈkəʊp ˌwɪð] *phr v* спраўляцца з (*чым-н.*)
**cord** [kɔːd] *n* шнур
**cotton** [ˈkɒt(ə)n] *n, adj* бавоўна; баваўняны
**cry on smb's shoulder** [ˈʃəʊldə] пажаліцца, паскардзіцца каму-н.

## D

**damage** [ˈdæmɪdʒ] *n* урон, страта; шкода
**deal** [diːl] **with** мець справу з
**deliver** [dɪˈlɪvə] *v* дастаўляць
**denim** [ˈdenɪm] *n*, *adj* джынсавая тканіна; джынсавы
**design** [dɪˈzaɪn] *n* дызайн
**designer** [dɪˈzaɪnə] *n* дызайнер
**destroy** [dɪˈstrɔɪ] *v* разбураць; рушыць, зносіць
**detail** [ˈdiːteɪl] *n* дэталь
**device** [dɪˈvaɪs] *n* устройства
**dial** [daɪəl] *v*, *n* набіраць нумар; дыск набору
**disagree** [ˌdɪsəˈɡriː] *v* не згаджацца
**disagreeable** [ˌdɪsəˈɡriːəb(ə)l] *adj* непрыемны
**disappointed** [ˌdɪsəˈpɔɪntɪd] **with (in) smb (smth)** расчараваны ў кім-н., чым-н.
**disastrous** [dɪˈzɑːstrəs] *adj* бядотны, гібельны
**discount** [ˈdɪskaʊnt] *n* скідка, дысконт
**disease** [dɪˈziːz] *n* хвароба

**do badly** [ˈbædlɪ] дрэнна спраўляцца (*з чым-н.*)

**do smb a favour** [ˈfeɪvə] рабіць каму-н. паслугу

**do one's best** рабіць усё, што залежыць ад каго-н.

**do one's homework** рабіць урокі

**do the dishes** мыць посуд

**do the shopping** рабіць пакупкі

**do the test** пісаць кантрольную работу

**drizzle** [ˈdrɪz(ə)l] *n*, *v* дробны дождж; імжэць

**drought** [draʊt] *n* засуха

**drown** [draʊn] *v* тапіцца (*пра людзей*), тапіць; заліваць

## E

**earthquake** [ˈɜːθkweɪk] *n* землетрасенне, землятрус

**eating habits** [ˈiːtiŋ ˈhæbɪts] *n* звычкі ў харчаванні

**eavesdrop** [ˈiːvzdrɒp] *v* падслухваць

**efficient** [ɪˈfɪʃ(ə)nt] *adj* эфектыўны

**end up** *phr v* канчацца, заканчвацца

**eruption** [ɪˈrʌpʃ(ə)n] *n* выварджэнне (*вулкана*)

**evaporate** [ɪˈvæpəreɪt] *v* выпарацца; ператварацца ў пару

**exhibit** [ɪgˈzɪbɪt] *v*, *n* выстаўляць, дэманстраваць; экспанат

**exhibition** [ˌeksɪˈbɪʃ(ə)n] *n* выстава

**expect** [ɪkˈspekt] *v* чакаць, меркаваць, дапускаць

**explore** [ɪkˈsplɔː] *v* даследаваць, вывучаць

**eyelashes** [ˈaɪlæʃɪz] *n* вейкі

## F

**fad** [fæd] *n* капрыз, дзівацтва, выдумка

**fail an exam** [ˈfeɪl ən ɪgˈzæm] праваліць экзамен

**fair weather** [ˈfeə ˈweðə] добрае, яснае надвор'е

**fall** [fɔːl] **(go) down** *v* падаць, апускацца

**fall asleep** [ˌfɔːl əˈsliːp] *v* заснуць

**fall out** [ˌfɔːlˈaʊt] *phr v* сварыцца

**fit** *v* падыходзіць размерам

**fit in** *phr v* прыстасоўвацца

**fitness** [ˈfɪtnəs] *n* вынослівасць, трэніраванасць

**flavouring** [ˈfleɪvərɪŋ] *n* араматызатар

**flax** [flæks] *n* лён

**flood** [flʌd] *n* паводка, патоп

**floral** [ˈflɔːrəl] *adj* у кветачкі

**fog** [fɒg] *n* туман

**for** [fɔː] *conj* таму што

**force** [fɔːs] *n* сіла

**forecast** [ˈfɔːkɑːst] *n*, *v* прагноз, прагназаванне; рабіць прагноз

**forehead** [ˈfɒrɪd] *n* лоб

**free** [friː] *adj* бясплатны

**freeze** [friːz] *v* замярзаць, замарожваць

**frost** [frɒst] *n* мароз, замаразкі

**frosty** [ˈfrɒstɪ] *adj* марозны; пакрыты інеем (шэранню)

**full of beans** [biːnz] жывы, энергічны

**fur** [fɜː] *n*, *adj* футра; футравы

**furthermore** [ˌfɜːðəˈmɔː] *adv* да таго ж, акрамя таго, нават больш

## G

**gadget** [ˈgædʒɪt] *n* прыстасаванне, тэхнічная навінка

**get along with** *phr v* ужывацца з

**get on well with smb** *phr v* ладзіць з кім-н.

**give a warm welcome** [ˈwelkəm] цёпла, сардэчна вітаць

**glacier** [ˈglæsɪə] *n* ляднік

**go up (by two degrees)** падняцца (на два градусы)

## H

**habit** [ˈhæbɪt] *n* прывычка, звычка

**hail** [heɪl] *n* град

**harmful** [ˈhɑːmf(ə)l] *adj* шкодны, згубны; гібельны

**have an exam** [ɪgˈzæm] трымаць экзамен

**hazel** [ˈheɪz(ə)l] *adj* карыя (*вочы*)

**healthy** [ˈhelθɪ] **diet** здаровае харчаванне, здаровая дыета

**heat** [hiːt] *n* гарачыня, спякота

**heatwave** [ˈhiːtˌweɪv] *n* перыяд моцнай гарачыні

**heavy** [ˈhevɪ] *adj* цяжкі; моцны; інтэнсіўны, шчодры

**hobby** [ˈhɒbɪ] *adj* хобі, захапленне, любімы занятак

**hood** [hʊd] *n* капюшон

**however** [haʊˈevə] *adv* аднак

**humid** [ˈhjuːmɪd] *adj* вільготны, сыры

**humidity** [hjuːˈmɪdətɪ] *n* вільготнасць, сырасць

**hurricane** [ˈhʌrɪkən] *n* ураган; трапічны цыклон

## I

**ice** [aɪs] *n*, *v* лёд; ледзянець

**illness** [ˈɪlnɪs] *n* хвароба, захворванне

**immature** [ˌɪməˈtjʊə] *adj* нясталы, нявопытны (*чалавек*)

**impact** [ˈɪmpækt] *n* моцнае ўздзеянне; уплыў

**in addition to** [əˈdɪʃ(ə)n] у дадатак да (*чаго-н.*)

**influence** [ˈɪnflʊəns] *n*, *v* уплыў, уздзеянне; уплываць

**interrupt** [ˈɪntərʌpt] *v* перабіваць

**introduce** [ˌɪntrəˈdjuːs] *v* знаёміць, прадстаўляць; укараняць, уводзіць

**item** [ˈaɪtəm] *n* асобны прадмет

## J

**jogging** [ˈdʒɒgɪŋ] *n* прабежка, бег трушком

## K

**kind-hearted** [ˌkaɪnd ˈhɑːtɪd] *adj* мяккасардэчны, добрасардэчны, добры

**knitting** [ˈnɪtɪŋ] *n* вязанне

## L

**lace** [leɪs] *n*, *adj* карункі; карункавы

**lack** [læk] *n* недахоп; адсутнасць (*чаго-н.*)

**landline** [ˈlæn(d)laɪn] *n* тэлефонная лінія (*правадная*)

**layer** [ˈleɪə] *n* пласт

**learn** [lɜːn] *v* вучыць, вывучаць

**leather** [ˈleðə] *n*, *adj* скура; скураны

**leave smb cold** не зрабіць уражання на каго-н., не ўразіць каго-н.

**leisure** [ˈleʒə] *n* вольны час

**light** [laɪt] *n*, *v* дзённае святло; асвятленне

**lightning** [ˈlaɪtnɪŋ] *n* маланка

**linen** [ˈlɪnɪn] *adj* ільняны

**lingua franca** [ˌlɪŋgwə ˈfræŋkə] *n* мова зносін

**loose** [luːs] *adj* свабодны; прасторны; шырокі

## M

**make** *v* рабіць, рыхтаваць

**make a choice** [tʃɔɪs] рабіць выбар

**make a difference** [ˈdɪfrəns] істотна мяняць (*звычайна да лепшага*)

**make a fuss** [fʌs] мітусіцца, ствараць ажыятаж (*вакол чаго-н.*)

**make a list** складаць спіс

**make a mistake** памыляцца, дапускаць памылку

**make a plan** складаць план

**make a trip** падарожнічаць

**make a wish** загадваць жаданне

**make an announcement** [əˈnaʊnsmənt] аб'яўляць

**make an appointment** [əˈpɔɪntmənt] назначаць сустрэчу

**make an effort** [ˈefət] рабіць намаганне; паспрабаваць

**make friends** пасябраваць (*з кім-н.*)

**make noise** [nɔɪz] шумець

**make progress** [ˈprəʊgres] рабіць поспехі

**make sense** [sens] мець сэнс

**make-up** [ˈmeɪkʌp] *n* макіяж

**make up one's mind** прымаць рашэнне

**marine** [məˈriːn] *adj* марскі

**material** [məˈtɪərɪəl] *n* матэрыял

**means** [miːnz] *n* сродак

**Mediterranean** [ˌmedɪtəˈreɪnɪən] *adj* міжземнаморскі

**melt** [melt] *v* раставаць

**meteorologist** [ˌmiːtɪəˈrɒlədʒɪst] *n* метэаролаг

**miss (lessons)** прапускаць (заняткі)

**misunderstanding** [ˌmɪsʌndəˈstændɪŋ] *n* непаразуменне

**moderate** [ˈmɒd(ə)rət] *adj* умераны

**moist** [mɔɪst] *adj* сыры; вільготны

**moisture** [ˈmɔɪstʃə] *n* вільготнасць, сырасць; вільгаць

**moreover** [ˌmɔːˈrəʊvə] *adv* акрамя таго

**moustache** [məˈstɑːʃ] *n* вусы

**must** [mʌst] *n* неабходная рэч

**must** [mʌst] *v* павінен

## N

**nasty** [ˈnɑːstɪ] *adj* агідны

**network** [ˈnetwɜːk] *n* сетка

**nevertheless** [ˌnevəðəˈles] *adv* тым не менш, аднак, усё-такі

## O

**occur** [əˈkɜː] *v* адбывацца, здарацца

**opening times** [ˈəʊp(ə)nɪŋˌtaɪmz] час работы (*музея, магазіна*)

**option** [ˈɒpʃ(ə)n] *n* варыянт, альтэрнатыва

**outfit** [ˈaʊtfɪt] *n* камплект адзення

**overcast** [ˈəʊvəkɑːst] *adj* зацягнуты воблакамі; змрочны, пахмурны

**oversleep** [ˌəʊvəˈsliːp] *v* прасыпаць

**overweight** [ˈəʊvəweɪt] *n* залішняя вага

## P

**pass an exam** [ˈpɑːs ən ɪgˈzæm] здаць экзамен

**passionate** [ˈpæʃ(ə)nət] *adj* страсны, палкі

**pattern** [ˈpætən] *n* малюнак, узор на тканіне

**peer** [pɪə] *n* равеснік; чалавек, роўны паводле статусу

**plain** [pleɪn] *adj* аднатонны, без рысунка

**pocket** [ˈpɒkɪt] *n* кішэня

**poison** [ˈpɔɪz(ə)n] *n* яд, атрута

**polar** [ˈpəʊlə] *adj* палярны; полюсны

**polka-dotted** [ˈpɒlkəˌdɒtɪd] *adj* у гарошак

**portable** [ˈpɔːtəb(ə)l] *adj* перанасны, партатыўны

**pour with rain** [ˈpɔː wɪð ˈreɪn] ліць як з вядра (*пра дождж*)

**precipitation** [prɪˌsɪpɪˈteɪʃn] *n* выпадзенне ападкаў, ападкі

**preservative** [prɪˈzɜːvətɪv] *n* кансервант

**pressure** [ˈpreʃə] *n* ціск

**pretty** [ˈprɪtɪ] *adj* сімпатычны, мілавідны, прывабны (*звычайна пра жанчыну або дзіця*)

**pretty** [ˈprɪtɪ] *adv* дастаткова, досыць, у значнай ступені

## Q

**quality** [ˈkwɒlətɪ] *n* якасць

**quantity** [ˈkwɒntɪtɪ] *n* колькасць

## R

**reach** [riːtʃ] *v* дасягаць; даходзіць

**receive** [rɪˈsiːv] *v* атрымліваць

**record** [ˈrekɔːd] *n* рэкорд; уліковы запіс; [rɪˈkɔːd] *v* запісваць (*дыск*); рабіць запісы

**recreation** [ˌrekrɪˈeɪʃ(ə)n] *n* адпачынак; вяртанне здароўя

**recreational** [ˌrekrɪˈeɪʃ(ə)nl] *adj* забаўляльны, які адносіцца да забаўляльнай сферы

**reliable** [rɪˈlaɪəb(ə)l] *adj* надзейны

**rely** [rɪˈlaɪ] **on smb** *v* разлічваць на каго-н.

**remote** [rɪˈməʊt] *adj* далёкі, аддалены

**replace** [rɪˈpleɪs] *v* замяняць, замяшчаць; узнаўляць

**research** [rɪˈsɜːtʃ] *v* даследаваць, вывучаць; займацца даследаваннямі

**response** [rɪˈspɒns] **(to)** *n* рэакцыя, адказ (на)

**responsibility** [rɪˌspɒnsəˈbɪlətɪ] *n* адказнасць

**right** [raɪt] *n* права

## S

**scuba diving** [ˈskuːbə ˌdaɪvɪŋ] *n* плаванне з аквалангам
**secure** [sɪˈkjʊə] *adj* бяспечны, надзейны
**selfish** [ˈselfɪʃ] *adj* эгаістычны
**selfishness** [ˈselfɪʃnɪs] *n* эгаізм
**sentimental** [ˌsentɪˈment(ə)l] *adj* сентыментальны, чуллівы
**sewing** [ˈsəʊɪŋ] *n* шыццё
**shortage** [ˈʃɔːtɪdʒ] **(of)** *n* дэфіцыт, недахоп (*чаго-н.*)
**shower** [ˈʃaʊə] *n* лівень, ліўневы дождж
**silhouette** [ˌsɪlʊˈet] *n* сілуэт
**silk** [sɪlk] *n*, *adj* шоўк; шаўковы
**since** [sɪns] *conj* таму што
**sink** *v* тануць (*пра караблі*); апускацца
**sit an exam** [sɪt ən ɪgˈzæm] здаваць экзамен
**sleet** [sliːt] *n* дождж са снегам
**sleeve** [sliːv] *n* рукаў
**snowboarding** [ˈsnəʊbɔːdɪŋ] *n* сноўборд (*від спорту*)
**source** [sɔːs] *n* крыніца
**spiky** [ˈspaɪkɪ] **hair** прычоска «вожык»
**stick together** [ˌstɪk təˈgeðə] *phr v* трымацца разам
**storm** [stɔːm] *n* бура, навальніца, ураган
**study** [ˈstʌdɪ] *v* вывучаць (*які-н. прадмет*)
**subarctic** [ˌsʌbˈɑːktɪk] *adj* перадпалярны, субарктычны (*пра рэгіён, клімат*)
**successful** [səkˈsesf(ə)l] *adj* паспяховы
**suffer** [ˈsʌfə] **from** *v* пакутаваць ад (*чаго-н.*)

## T

**take an exam** здаваць экзамен
**tasteful** [ˈteɪs(t)f(ə)l] *adj* зроблены з густам
**tasteless** [ˈteɪs(t)ləs] *adj* безгустоўны, з дрэнным густам
**teach** *v* вучыць, навучаць
**team up** [ˌtiːm ˈʌp] *v* аб'ядноўвацца
**technology** [tekˈnɒlədʒɪ] *n* тэхналогія
**thunder** [ˈθʌndə] *n*, *v* гром; грукатаць, грымець
**tornado** [tɔːˈneɪdəʊ] *n* смерч, тарнада, шквал
**tropical** [ˈtrɒpɪk(ə)l] *adj* трапічны
**trustworthy** [ˈtrʌs(t)ˌwɜːðɪ] *adj* надзейны
**tsunami** [tsuːˈnɑːmɪ] *n* цунамі
**tundra** [ˈtʌndrə] *n* тундра

## U

**unhealthy** [ʌnˈhelθɪ] *adj* нездаровы; шкодны, небяспечны

## V

**vapour** [ˈveɪpə] *n*, *v* па́ра; выпарвацца
**violence** [ˈvaɪələns] *n* жорсткасць; насілле, гвалт
**volcano** [vɒlˈkeɪnəʊ] *n* вулкан

## W

**waste** [weɪst] *n*, *v* страта, пустая трата; траціць марна

**weather the storm** [ˈweðə ðə ˈstɔːm] перачакаць; перазімаваць
**what is more** (i) што больш важна, (i) нават больш
**wildfire** [ˈwaɪldfaɪə] *n* прыродны пажар
**wire** [waɪə] *n* провад; тэлеграф
**within reasonable limits** [wɪðˈɪn ˈriːz(ə)nəb(ə)l ˈlɪmɪts] у разумных межах
**wool** [wʊl] *n* шэрсць
**woolen** [ˈwʊlən] *adj* шарсцяны́
**worthwhile** [ˈwɜːθˌwaɪl] *adj* варты, добры
**wrap** [ræp] *n*, *v* абгортка; загортваць, абгортваць

## Y

**yoga** [ˈjəʊgə] *n* ёга

## Z

**zip** [zɪp] *n*, *v* засцежка-маланка; засцягваць на маланку

Вучэбнае выданне

**Лапіцкая** Людміла Міхайлаўна
**Дзямчанка** Наталля Валянцінаўна
**Волкаў** Андрэй Валер'евіч і інш.

**АНГЛІЙСКАЯ МОВА**

Вучэбны дапаможнік для 9 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

Рэдактар *Л.Д. Касьянава*
Мастацкі рэдактар *К.А. Агуновіч*
Тэхнічны рэдактар *Н.А. Лебядзевіч*
Карэктары *В.І. Аверкіна*, *Л.Д. Касьянава*
Камп'ютарная вёрстка *М.У. Брыгер*

Падпісана ў друк 26.08.2011. Фармат 60×90/16. Папера афсетная.
Гарнітура «Школьная». Афсетны друк. Ум. друк. арк. 18,5. Ул.-выд. арк. 15,09.
Тыраж 11 731 экз. Заказ 90.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва "Вышэйшая школа"».
ЛИ № 02330/0494062 ад 03.02.2009. Пр. Пераможцаў, 11, 220048, Мінск.
e-mail: info@vshph.com http://vshph.com

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку».
ЛП № 02330/0494156 ад 03.04.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.

(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Клас | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|---|
| 20 / | | | | |
| 20 / | | | | |
| 20 / | | | | |
| 20 / | | | | |

*Вучэбны дапаможнік выдадзены за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту для фондаў бібліятэк па заказе Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*